Ідзе падпіска на “Народную Волю” на снежань 2017 года і на першую палову 2018-га.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 86 (4235)**

31 кастрычніка 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ДЗЯДЫ

## Дазволілі!

*Мінскі гарадскі і абласны выканкамы дазволілі правядзенне ў нядзелю 5 лістапада традыцыйнага шэсця і мітынгу ў Курапатах.*

Акцыя ўшанавання памяці ахвяр сталінскага рэжыму прымеркавана да восеньскага дня ўшанавання продкаў – Дзядоў. Збор удзельнікаў шэсця пачнецца ў 11.30 каля гадзіннікавага завода «Луч» у Мінску. А 12-й гадзіне калона рушыць у Курапаты, дзе запланаваны мітынг.

Сёлета адзначаецца 80-я ўгодкі піку сталінскага тэрору 1937 года.

АСОБА

## Учора 70-гадовы юбілей адзначыў знакаміты беларускі харэограф, народны артыст СССР Валянцін Елізар'еў

Сёння, 31 кастрычніка, на сцэне Вялікага тэатра пакажуць легендарны елізар'еўскі балет “Спартак” – ён ідзе ўжо 37 гадоў! Аднаўляў спектакль сам Валянцін Мікалаевіч – ён правёў сем рэпетыцый з артыстамі.

*“Тыя нямногія рэпетыцыі, якія мне дадзены, прайшлі вельмі прадуктыўна,* – гаворыць Елізар'еў. – *Усе, з кім я кантактаваў, працавалі вельмі добра, нават выдатна”.*



2 лістапада ў Мінску на канцэрце ў гонар Валянціна Елізар'ева збяруцца зоркі балета амаль з усіх куткоў свету. Будуць нават танцоўшчыкі з Кітая! Павіншаваць юбіляра прыедуць **Юрый Грыгаровіч, Мікалай Цыскарыдзэ, Святлана Захарава, Раду Паклітару** і іншыя.

Квіткоў на гала-канцэрт і на “Спартак” не знайсці – яны былі выкуплены імгненна. Ажыятаж неверагодны!

Гэтымі днямі на адрас Валянціна Мікалаевіча гучыць шмат цёплых і прыемных слоў, у тым ліку і з вуснаў высокіх асоб.

З юбілеем Елізар'ева павіншаваў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

*“Ваша імя непарыўна звязана са станаўленнем, вышэйшымі дасягненнямі і сусветным прызнаннем беларускага балета. Створаныя Вамі спектаклі ўвайшлі ў залаты фонд нацыянальнай харэаграфіі, карыстаюцца нязменным поспехам і выклікаюць незабыўныя ўражанні ў гледачоў,* – гаворыцца ў віншаванні. – *Вы з'яўляецеся прыкладам самаадданага служэння мастацтву. Таму ўпэўнены, што Ваш талент, энергія, натхненне і ў далейшым будуць спрыяць росквіту айчыннай культуры”.*



Падчас рэпетыцыі

Міністр культуры **Юрый Бондар** адзначыў: *“Валянцін Мікалаевіч – наш гонар, аблічча беларускага балета. Ён таленавіты чалавек з інавацыйнымі ідэямі, са сваім унікальным стылем. Гэта старонка, напісаная залатымі літарамі ў гісторыі прафесіянальнага мастацтва нашай краіны”.*

Нагадаем, Валянцін Елізар'еў сышоў з пасады мастацкага кіраўніка – дырэктара Тэатра балета ў 2009 годзе. Пасля рэканструкцыі тэатра яму прапанавалі застацца мастацкім кіраўніком балета.

*“Я працаваў на гэтай пасадзе 36 гадоў. Мне здавалася, што мае веды і вопыт могуць быць выкарыстаны лепш”,* – сказаў Валянцін Елізар'еў, які ў 26 гадоў стаў галоўным балетмайстрам Тэатра оперы і балета Беларусі. І напісаў заяву аб сыходзе, якую тут жа падпісалі. Дырэктарам Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета прызначылі былога намесніка міністра культуры, чыноўніка са стажам **Уладзіміра Грыдзюшку.**

Апошнія гады Елізар'ева быццам бы не заўважалі.

Увесь гэты час знакаміты харэограф, які большую частку свайго жыцця прысвяціў беларускаму балету, заходзіў у тэатр не праз службовы, а праз парадны ўваход. Елізар'еў прыходзіў у Вялікі тэатр не па запрашальніках, на ўсе спектаклі, у тым ліку і прэм'ерныя, сам купляў кветкі. Як звычайны глядач.

Валянцін Елізар'еў ставіў балеты ў замежжы. Ён хоць і не паказваў віду, але ў душы, відаць, пакутаваў. Бо мог жа яшчэ ставіць свае геніяльныя спектаклі тут, у Беларусі, праслаўляць краіну! Але кіраўніцтва Вялікага тэатра за восем гадоў чамусьці так і не зрабіла Елізар'еву такой творчай прапановы, ад якой той не змог бы адмовіцца.

Спектаклі ў пастаноўцы Елізар'ева сёння нячаста з'яўляюцца ў афішы Вялікага тэатра оперы і балета. Напрыклад, у гэтым тэатральным сезоне той жа “Спартак” пакажуць 2 лістапада, а потым – толькі 18 мая. Да канца сезона можна ўбачыць яшчэ некалькі спектакляў Елізар'ева – “Рамэа і Джульета” (адбудзецца па адным паказе ў студзені, сакавіку, красавіку і маі) і “Рагнеда” (пакажуць толькі 9 лютага).

Ці стане юбілей Елізар'ева нагодай для яго вяртання ў тэатр? Альбо ўрачыстасці адгрымяць, кветкі засохнуць, а прыгожыя словы растворацца ў атмасферы?

Сам Валянцін Елізар'еў не мае адказу на гэтае пытанне.

*“Я лічу, што будзе вельмі карысным працягнуць паказ “Спартака”, тым больш што ён карыстаецца надзвычайным інтарэсам у публікі”,* – сказаў журналістам нядаўна прызначаны міністр культуры Юрый Бондар.

Паводле інфармацыі “Народнай Волі”, пакуль ніякіх канкрэтных прапаноў аб працы ў тэатры і новых пастаноўках Елізар'еву не паступала. А як будзе далей – пакажа час.

**Марына КОКТЫШ.**

ЧУЛІ?

## 65 капеек за паездку ў метро

З 1 лістапада ў Мінску даражэе праезд у гарадскім грамадскім транспарце. Гэта прадугледжана рашэннем Мінгарвыканкама ад 19 кастрычніка 2017 г. №3506.

Талончык на адну паездку на наземным гарадскім транспарце будзе каштаваць 60 капеек, а на метро – 65. За праезд у аўтобусах экспрэсных маршрутаў прыйдзецца заплаціць 75 капеек.

Кошт праязных вырасце на 12–13%.




ПРАЕКТЫ

## «Вялікі камень» пачынае «выстрэльваць»

Так умоўна выказаўся прэм'ер-міністр **Андрэй Кабякоў**, падводзячы вынікі Беларуска-еўрапейскага інвестыцыйнага форуму, які прайшоў днямі ў Люксембургу. Кабякоў адзначыў: *«Думаю, што адзін з ключавых праектаў, які быў пазначаны, тычыцца таго, што наш лагістычны цэнтр, які ствараўся ў парку з удзелам сусветнага аператара «Чайна Мерчантс Груп», атрымае еўрапейскую прапіску. У склад заснавальнікаў кіруючай кампаніі* (СЗАТ «Кампанія па развіцці індустрыяльнага парку». – **БелаПАН.**) *плануе ўвайсці нямецкае прадпрыемства, якое валодае найбуйнейшым рачным портам Еўропы – Дуйсбургам. Гэтая ж кампанія шмат у чым кантралюе чыгуначныя перавозкі на тэрыторыі ЕС».*

Іншае пагадненне, паводле яго слоў, было таксама падпісана з нямецкай кампаніяй «Дыфенбахер», якая займаецца вытворчасцю кампазітных матэрыялаў, што маюць вялікую перспектыву прымянення ў машынабудаванні, будаўніцтве.

Акрамя таго, на форуме было падпісана пагадненне з 21 рэзідэнтам «Вялікага каменя».

ПО ПОВОДУ

Евгений СУЛЫГА

## Путч демона

*«Барселона…*
*Такой красивый горизонт!*
*Барселона…*
*Ты словно драгоценный камень на солнце!*
*Ради тебя я готов стать чайкой*
*и парить над твоим прекрасным морем…*
*Барселона!»*

Это слова из песни, которую Фредди Меркьюри и Монтсеррат Кабалье записали в 1988 году и которая стала гимном Олимпийских игр 1992 года в Барселоне. Эта песня о встрече с любимым человеком в красивом городе.

Но сегодня в Каталонии все больше поют не о любовных встречах, а о политическом расставании с Мадридом. Хочу спросить: чего не хватает жителям Каталонии?

У них уровень жизни ниже, чем в других регионах Испании? Нет.

Мадрид жирует, а Барселона нищает? Нет.

Каталонцев унижают? Их ограничивают в правах, дискредитируют по «национальному признаку»? Тоже нет!

Так в чем проблема? Что за буря в стакане «Риохи»? Кому не налили? Кто остался обижен?

Судя по всему, это Карлес Пучдемон и «узкий круг ограниченных людей», которые спят и видят себя суверенами – единоличными правителями независимого государства Каталония! У «ботаника» Пучдемона дикое желание стать основателем независимого государства. Он хочет войти в историю, чтобы его лицо после смерти залили гипсом и потом выставили маску на всеобщее обозрение. И в стремлении увековечить себя Пучдемон раскачал каталонскую лодку, довел ситуацию до всеиспанского кризиса.

Снова задаюсь вопросом: а ради чего? Что, каталонцы унижены и оскорблены в составе Королевства Испания? Так ведь нет! Более того, лишь примерно половина жителей Каталонии хочет отделиться. А другая половина – против! И что делать? Как жить?

Я не уверен, что Пучдемон просчитал все риски выхода из состава Испании и последствия как для Каталонии, так и для Испании в целом. Он думает, что нынешняя экономическая ситуация в Каталонии, пока она регион Испании, останется прежней? Нет! Как и любая революция, отделение Каталонии ввергнет и Барселону, и Мадрид в жуткий кризис, который выбьет Испанию из союза европейских лидеров, а Каталония просто упадет ниже финансовой ватерлинии и обанкротится! И никакие чайки не захотят летать над ее куском моря…

Уже сегодня масса компаний и банков переводят свои штаб-квартиры из Барселоны в Мадрид. Завтра Каталонию никто не признает как самостоятельного игрока на поле Евросоюза. Каталония не будет иметь шансов получать кредиты от МВФ и ЕС. Экономика региона начнет стремительно увядать. Пучдемон убьет экономику Каталонии и все свои провалы будет заклеивать куском лейкопластыря с надписью: «Зато мы независимы!» Ну хорошо, от независимости Каталонии получит профит узкий круг старых олигархических каталонских кланов. Кто еще? Что получит простой каталонец? Сегодня он как испанский гражданин «серфингует» по всему миру. А завтра, при независимой Каталонии?

Скажите мне, что такое «независимость» в контексте Западной Европы? Чего всем этим евросепаратистам в «евросупе» не хватает? Языкового вопроса нет. Дискриминации по национальности нет. Свободное перемещение по всему миру. Живешь в Бельгии, но нашел работу в Лондоне – нет проблем! Сел на паром – и через час ты в Дувре! Или в Лувре?.. Тоже через час. Нет границ! Ты чувствуешь реальную свободу! Поезжай куда хочешь, пока бензин в баке не закончится. Для нормальных людей в Европе – идеальные мультинациональные отношения.

Сегодня нет причин говорить о сепаратизме. Сегодня нет места сепаратизму в Европе. Это факт. И никакой Пучдемон ничего лучшего, чем уже имеют европейцы, не придумает и не даст жителям Каталонии! Единственный нюанс: сепаратизм в Евросоюзе подогревают и «некие силы», желающие разрушить евросоюзную стабильность. Плюс эгоизм таких вот «путч-демонов», мечтающих войти в историю любой ценой. Даже ценой гибели родины…

КСТАТИ

## Парламент прекратил работу

Вчера каталонский парламент официально признал решение испанского правительства о роспуске и прекратил работу до проведения новых досрочных выборов в Каталонии 21 декабря. Эту дату, как известно, объявил недавно премьер-министр Испании Мариано Рахой.

Также Рахой сообщил, что глава каталонской полиции Хосеп Луис Траперо будет отстранен от своей должности, а глава женералитата Каталонии Карлес Пучдемон уволен.

К слову, вчера генпрокурор Испании призвал выдвинуть против лидеров Каталонии обвинения в бунте, сепаратизме и растрате. Он также заявил, что экс-руководители автономии, отстраненные от власти решением Мадрида, должны быть вызваны в суд для дачи показаний.

ВІНШУЕМ!

## Алена Анісім – старшыня ГА «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны»

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Алена Анісім у бліжэйшыя тры гады будзе ўзначальваць грамадскае аб'яднанне «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны», з'езд якога адбыўся ў мінулую нядзелю.

Вось цытата з яе выступлення:

“Калі мы ўсе, кожны ў сваім раёне, будзем працаваць з бацькамі, то ў нас будзе расці колькасць класаў з беларускай мовай навучання. Калі мы будзем працаваць з настаўнікамі – атрымаем добрыя кадры для навучання нашых дзяцей быць сапраўднымі грамадзянамі. Таксама трэба працаваць з бізнесам, які станоўча ставіцца да беларускай мовы, рабіць упор на карпаратыўна-сацыяльную адказнасць. <...> Давайце будзем выкарыстоўваць усе магчымасці, каб беларуская мова стала (па-сапраўднаму) дзяржаўнай мовай, а таксама каб нашы дзеці раслі з разуменнем, што беларуская мова – натуральная мова нашага народа”.



Як кажуць, дай Бог чутае бачыць!

НУ І НУ!

## Аляксей Язылец вандруе 151-ы месяц запар

*Беларускі падарожнік з Мядзела працягвае ўстанаўліваць рэкорды.*

Аляксей Язылец – незвычайны чалавек. Двойчы абагнуў зямны шар. Аднойчы на Дзень Волі данёс сцяг з “Пагоняй” да кратара вулкана Брома на выспе Ява ў Інданезіі і ўзняў яго там. Зараз ён знаходзіцца ў Варшаве, але ўжо падвёў некаторыя вынікі сваёй “турыстычнай дзейнасці”.

*“151-ы месяц запар у мяне – з падарожжамі, бо з красавіка 2005 года не было такога месяца, у якім бы я не вандраваў,* – распавёў Аляксей. – *За гэты час праехаў усе кантыненты, наведаў 96 краін. У сярэднім штогод бываю ў 21 рознай краіне. Больш за ўсё падарожнічаў у Афрыцы – у Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы (больш за 10 тысяч кіламетраў), у Азіі – у Турцыі (больш за 20 тыс.), у Амерыцы – у Канадзе (больш за 10 тыс.). Ва ўсіх гэтых краінах вандраваў толькі аўтаспынам”.*

Вось гэта вандроўка!

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

У ДАРОГУ!

## Ад Мінска да Варшавы – за 18 еўра

*Даехаць на цягніку да польскай сталіцы можна будзе за шэсць з паловай гадзін.*

У снежні ўступае ў сілу новы расклад Беларускай чыгункі, і стала вядома, што з'явіцца новы цягнік, які будзе курсіраваць з Мінска ў Варшаву.

З беларускай сталіцы ён будзе адпраўляцца ў 10.57, у Варшаву пасажыры прыедуць у 17.29. У зваротным накірунку адпраўленне ў 8.44, прыбыццё ў Мінск – 18.49.

Прывабны і кошт квітка – усяго 18 еўра.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

# Колькі грошай сабрана на мемарыял у Курапатах?

*Яшчэ вясной было абвешчана пра агульнанацыянальны збор сродкаў на добраўпарадкаванне мемарыяла ў Курапатах. Мяне цікавіць: колькі грошай ужо сабрана?*

*Ведаю, што грошы на добраўпарадкаванне Курапатаў збіралі і прадстаўнікі грамадскай дырэкцыі мемарыяла. Ці робяць яны нейкія справаздачы, колькі сабрана і на што ідуць гэтыя сродкі?*

**Ігар ПЯТРОВІЧ, Мінск.**

*"Крыху больш за 3 тысячы долараў людзі пераважна на рахунак дзеля добраўпарадкавання Курапатаў",* – такую сціплую лічбу на пачатку кастрычніка назваў галоўны рэдактар газеты «Советская Белоруссия» Павел Якубовіч у эфіры Радыё Свабода. – *Літаральна штодня ёсць паступленні з усёй краіны. Яны невялікія, але ідуць рэгулярна. Сума, канечне, не ўражвае, але справа не ў суме, а ў тым, што многія людзі адгукнуліся. На жаль, калі высокімі словамі казаць, курапацкім болем да часткі грамадства дастукацца немагчыма. Не лічацца многія людзі гэта актуальным і вартым увагі..."*

Кіраўнік грамадскай дырэкцыі мемарыяла Курапаты, адказны сакратар управы сойму КХП–БНФ **Алесь Чахольскі** яшчэ два месяцы таму зрабіў справаздачу пра сродкі, якія былі таксама сабраны на добраўпарадкаванне Курапатаў. За чатыры месяцы – крыху менш за 3000 долараў. На гэтыя грошы 29 ліпеня і 5 жніўня 2017 года сябрамі Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі – БНФ па перыметры мемарыяла ўсталяваны 60 чатырохметровых металічных крыжоў.

Вось некаторыя лічбы з той публічнай справаздачы Алеся Чахольскага.

*"Сабрана і пералічана на электронны кашалёк – 5137 рублёў.*

*Знята – 5126,99 рубля.*

*Атрымана 5026,46 рубля (камісія банка склала 100,53 рубля).*

*Выдаткі:*

*набыццё металу – 2780,69 рубля,*

*рэзка, зварка, фарбоўка – 1000,00 рубля,*

*транспартныя выдаткі – 430,00 рубля,*

*фарба – 100,00 рубля (яе фактычна падаравалі).*

*Набыта – 4 рыдлёўкі, драбіна алюмініевая, кельма – 55,63 рубля.*

*Іншыя расходныя матэрыялы – 68,14 рубля.*

*Усяго выдаткавана – 4434,46 рубля.*

*Засталося – 592 рублі.*

*Сродкі, што засталіся, пераходзяць на другі этап праекта, які распачнецца пасля Новага года".*

– Я шчыра скажу: мы сабралі б і болей сродкаў, але гэтаму крыху перашкаджае заканадаўства, – падкрэслівае Алесь Чахольскі. – Пасля таго, як сума пераваліць за 5550 рублёў, трэба 13 працэнтаў у выглядзе падатку аддаць дзяржаве. Мы леш з 1 студзеня наступнага года зноў аб'явім збор сродкаў і ў наступным годзе, думаю, зробім увесь перыметр.

– **Але і на дзяржаўным узроўні абвешчаны конкурс на праект мемарыяла ў Курапатах. Не атрымаецца так, што вашы крыжы знясуць і паставяць новыя?**

– Адразу скажу, што сам народны мемарыял ужо створаны, і ўнутры не будзе ніякіх ні эскізаў, ні пабудоў. Гэта і заканадаўствам забаронена. Акрамя крыжоў і прыбраных магіл унутры нічога не павінна быць. Крыжовы перыметр – гэта межы помніка. Там можа быць пастаўлена яшчэ толькі мастацкая агароджа. А з боку поля можа быць і сцяна памяці, і музей, і стаянкі і гэтак далей. Гэта тое, чым, відаць, займаецца дзяржава. Але я не бачыў ні эскізаў, ні планаў, ні праектаў, нічога!

Яшчэ раз хачу падкрэсліць: сам помнік, сам мемарыял ужо існуюць! І туды мы лезці з нейкімі ідэямі нікому не дадзім. А калі палезуць туды з нейкімі капліцамі – будзе абарона. Усе людзі паўстануць супраць гэтага! Спадзяюся, што да гэтага не дойдзе.

**Марына КОКТЫШ.**

ПРЭСІНГ

# Штраф 575 і 1035 рублёў

*Учора ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска судзілі адразу чатырох журналістаў-фрылансераў.*

У дачыненні да **Ганны Аземша, Аляксандра Баразенкі, Вольгі Чайчыц і Андрэя Козела** была распачата адміністрацыйная справа за парушэнне заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі за супрацоўніцтва з польскім тэлеканалам «Белсат», які вяшчае на Беларусь: журналісты працавалі без акрэдытацыі.

Пасяджэнне вяла **Вікторыя Шабуня**, вядомая сваім удзелам у так званых палітычных працэсах.

Усіх чатырох журналістаў Шабуня пакарала штрафам. Аземша і Баразенка атрымалі па 25 базавых велічынь (па 575 рублёў), а Чайчыц і Козел — па 45 базавых (па 1.035 рублёў).

Паводле звестак Беларускай асацыяцыі журналістаў, у 2017 годзе штрафы за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі выносіліся 46 разоў. Іх агульная сума перавысіла 36 тысяч рублёў.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# Паляванне на Някляева

*Напрыканцы мінулага тыдня Рада Беларускага нацыянальнага кангрэса выступіла з заявай «У абарону Уладзіміра Някляева». Яна вытрымана ў даволі рэзкіх танах, улада фактычна звінавачваецца ў спробе ледзь не фізічнага знішчэння вядомага паэта і палітыка. «Народная Воля», прынцып журналісцкай працы якой палягае на высвятленні сутнасці любой канфліктнай сітуацыі, звярнулася да самога Уладзіміра Някляева з просьбай патлумачыць прычыны, якія сталі падставай для такой заявы.*

– Заява прымалася без майго ўдзелу, але патлумачыць прычыны яе з'яўлення я, безумоўна, магу, – *сказаў У.Някляеў.* – Турэмны спорт не дадае здароўя. Сябры Рады Беларускага нацыянальнага кангрэса лепш за іншых ведаюць пра праблемы, якія ўзніклі ў мяне пасля арышту, звязанага з падзеямі 2010 года, і паглыбіліся пры наступных зняволеннях. Асабліва пры апошніх, калі, каб стварыць дадатковы фізічны і псіхалагічны ціск, мяне, па сутнасці, не арыштоўвалі, а скрадалі, і сям'я не ведала ні таго, дзе я, ні таго, што са мной.

Мінулым разам мяне схапілі па дарозе ў лякарню. І, нягледзячы на тое, што я паказваў дакументы, з якіх вынікала, што знаходжуся ў небяспечным (перадынсультным) стане, што іду на прыём да доктара, мяне завезлі ў турму. А там не далі лекаў, без якіх не магу абыходзіцца. *«Инсульт, инфаркт… Мне все равно, что с вами будет, я думаю о себе»,* – адкрыта заявіў адзін з турэмных міліцыянтаў. Афіцэр, капітан. Не ведаю ягонага прозвішча.

Калі б так было аднойчы, можна было б прыняць гэта за выпадковасць. Але так апошнім часам кожны раз: падобны да выкрадання арышт, турма, адсутнасць лекаў – і ў выніку гіпертанічны крыз, кожны з якіх можа скончыцца тым, чым ён скончыўся некалі для майго сябра Генадзя Карпенкі.

Дык што мне пра гэта думаць?.. Калі відаць, што намацалі слабое месца – і ў яго б'юць. Прычым і тыя, хто арыштоўвае, і тыя, хто складае паперы ў суд, і тыя, хто судзіць, і тыя, хто ў турме пазбаўляе лекаў, усякак дакуль зразумець, што дзейнічаюць яны не па сваёй волі… «Уладзімір Пракопавіч, зразумейце нас, мы маленькія людзі».

Як бы там ні было, але жорсткая ўстаноўка на тое, каб пры кожным зручным выпадку пасадзіць, відавочная. І нават пры выпадку няўручным. На апошнім судзе я прад'явіў дакумент, які сведчыў, што ў мяне праблема са здароўем, што сёння мяне чакаюць у лякарні, і папрасіў суддзю (наперад ведаючы, што, маючы загад пасадзіць, не пасадзіць мяне яна не можа) проста адкласці выкананне пакарання. Не сёння пасадзіць, а заўтра, каб я змог схадзіць у лякарню, узяць неабходныя лекі. Ну куды я ад вашай турмы падзенуся?!.

І што зрабіла суддзя? Яна проста праігнаравала той дакумент! Каб не было ніякіх доказаў, што яна пасадзіла мяне ў дзень, калі я быў хворы, што арыштавалі мяне якраз у той час, калі я мусіў быць на прыёме ў доктара. І зрабіла яна гэта, каб выканаць загад з чыстым, так бы мовіць, сумленнем.

Прозвішча суддзі я, зразумела, ведаю. Але не стану называць. Бо ў яе, пэўна ж, сям'я, дзеці. Каб ім не было сорамна за маці…

На наступным судзе мяне збіраюцца судзіць па цалкам сфабрыкаванай справе. Зноў жа – абы пасадзіць. Спасылаючыся на публікацыю ў інтэрнэце, да якой я не маю ніякіх адносін, мяне вінавацяць у заклiку на несанкцыянаванае масавае мерапрыемства, якое адбылося ў Мінску 21 кастрычніка і на якім я не быў.

Справы аб адміністрацыйных правапарушэннях проста фабрыкуюцца. Адміністрацыйныя працэсы ў адносінах да актывістаў дэмакратычнай апазіцыі вядуцца з наўпроставым выкарыстаннем адміністрацыйнага рэсурсу выканаўчай улады, з яе ціскам на суды – і ў гэтым яшчэ адна прычына заявы Рады БНК.

І нарэшце самае важкае.

Публікацыя на партале «Хартыя'97», праз якую мяне збіраюцца судзіць, гэта пераказ фрагмента майго інтэрв'ю тэлеканалу «Белсат». І «Хартыя» на яго спасылалася: http://belsat.eu/programs/uladzimir-nyaklyaeu-patlumachyu-chamu-treba-pryjstsi-na-aktsyyu-21-kastrychnika/. Чаму ж тады тавварышы, якія сфабрыкавалі справу, нават не ўзгадалі інтэрв'ю? Чаму спасылаліся не на арыгінал, а на пераказ тэксту? Гэта ж проста непрафесійна – так працаваць. А ім напляваць! Бо, па-першае, наш суд з'есць і такое. Па-другое, калі б было прафесійна, тады было б відавочна, што нікога і нікуды я не заклікаў, а толькі адказваў на пытанні журналіста. А галоўнае – відавочна было б, што мяне аддаюць пад суд не за тыя заклікі, якіх я не рабіў, а за тую пазіцыю, якую публічна выказаў. За само інтэрв'ю.

Вось які кірунак акрэсліваецца на звілістай сцяжыне дыялогу, на шляху збліжэння з ЕС. Нехта з прадстаўнікоў улады кажа пра лібералізацыю, пра нейкія свабоды, а тым часам адміністрацыйныя судовыя працэсы як інструмент рэпрэсій усё пашыраюцца. Менавіта гэты аспект маёй «справы» я хачу падкрэсліць як найважны. Тым людзі ва ўладзе, якія не хочуць ні сапраўднага дыялогу, ні рэальнага збліжэння з Еўропай, паварочваюць усё да таго, каб дзеля перамен у краіне ты не толькі не мог нічога зрабіць, але і сказаць не мог нічога.

І зусім не выпадкова спецдакладчык ААН па Беларусі Міклаш Харасці канстатуе ў сваім апошнім дакладзе: «Узровень кантролю з боку ўлад над тым, што грамадзянам належыць ведаць, думаць і выказваць і пра што дазваляецца паведамляць у СМІ, наўрад ці мае аналагі ў нейкай іншай частцы Еўропы».

## З інтэрв'ю Уладзіміра Някляева тэлеканалу «Белсат»

*Карэспандэнт:* **– А так разумею, што вы таксама збіраецеся на суботнюю (21 кастрычніка) акцыю?**

*У.Някляеў:* – Не ведаю. Калі буду ў Мінску. Я магу не быць у Мінску ў гэты дзень.

*Карэспандэнт:* **– А чаму беларусы ўсё ж такі павінны пайсці на гэтую акцыю?**

*У.Някляеў:* – Дэкрэт №3, супраць якога актыўна пратэставалі на працягу больш як года не толькі прадстаўнікі дэмакратычнай апазіцыі, але і ўсе беларусы, па сутнасці не адменены. Лукашэнка спачатку заявіў з тым, што ён няправільны, што трэба нават вярнуць грошы тым людзям, якія былі ў іх забраныя, і некаторым людзям вярнулі. Я быў на адной сустрэчы, і там казалі: «Чаго мы пойдзем на гэтую пратэстную акцыю, калі нам вярнулі грошы?» Але па сутнасці ён, я маю на ўвазе дэкрэт, не адменены, і нават там зроблены не лепшыя для простага люду, а больш жорсткія ўдакладненні. Практычна па гэтым дэкрэце ўсіх, хто па нейкай прычыне часова ці стала не мае працы, можна заявіць як тунеядцаў – і займацца паборамі з іх. Так што калі ёсць воля бараніць свае правы, то трэба ісці і іх бараніць». http://belsat.eu/programs/uladzimir-nyaklyaeu-patlumachyu-chamu-treba-pryjstsi-na-aktsyyu-21-kastrychnika/

ЮРЫДЫЧНАЯ ЭКСПЕРТЫЗА

## Абсурднае абвінавачванне

У адпаведнасці з фармулёўкамі арт.23.34 КаАП (ч.1,2,3), склад адміністрацыйнага правапарушэння можа быць прызнаны ў адносінах да фізічнай асобы, што ўдзельнічае ў правядзенні масавага мерапрыемства з парушэннем устаноўленага парадку ягонай арганізацыі ці правядзення. Мерапрыемства, праведзенае 21 кастрычніка ў 14.00 у Мінску, Уладзімір Някляеў не арганізоўваў, пра яго не заяўляў і ў ім не ўдзельнічаў.

Што да публічных заклікаў да арганізацыі ці правядзення масавага мерапрыемства, дык гэта выказванне, у якім лаканічна сфармуляваны канкрэтны заклік да канкрэтных дзеянняў. У дадзеным выпадку гэта мог быць заклік прыйсці 21 кастрычніка 2017 года ў 14.00 на Кастрычніцкую плошчу г.Мінска для ўдзелу ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве. У матэрыялах СМІ, на якія маюцца спасылкі ў Пратаколе аб адміністрацыйным правапарушэнні, складзеным у дачыненні да Уладзіміра Някляева, нічога, што можна было б кваліфікаваць як падобны заклік, няма. Таму абвінавачванне ў гэтым – відавочная юрыдычная націжка. Калі не назваць гэта фабрыкацыяй справы аб адміністрацыйным правапарушэнні.

**Гары ПАГАНЯЙЛА, старшыня юрыдычнай камісіі Беларускага Хельсінскага камітэта.**

ЛІТАРАТУРНА-МОЎНАЯ ЭКСПЕРТЫЗА

## Нельга судзіць!

**У суд Ленінскага раёна г. Мінска**

Сакратарыяту ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" стала вядома, што Уладзіміру Пракопавічу Някляеву, сябру Рады нашай арганізацыі, выстаўлена абвінавачанне па арт.23.34, ч.3 КаАП РБ "Парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў".

Зместам абвінавачання з'яўляецца не арганізацыя, правядзенне ці ўдзел у масавым мерапрыемстве (бо ўдзелу ў "Маршы абураных беларусаў" Уладзімір Някляеў не прымаў), а "публічны заклік да правядзення, арганізацыі масавага мерапрыемства з парушэннем устаноўленага парадку яго арганізацыі ці правядзення". Падставай да прыцягнення Уладзіміра Някляева да адміністрацыйнай адказнасці называецца публікацыя на інтэрнэтсайце Charter97.org "Свае правы трэба абараняць" ад 16 кастрычніка 2017 года.

Найперш звяртаем вашу ўвагу, што дадзеная публікацыя не з'яўляецца першакрыніцай выказвання Уладзіміра Някляева і не з'яўляецца яго аўтарскім выказваннем. Публікацыя "Свае правы трэба абараняць" выкарыстоўвае цытату з інтэрв'ю Уладзіміра Някляева для тэлеканала "Белсат" і ўтрымлівае рэдакцыйную падачу і афармленне матэрыялу ў кантэксце "Маршу абураных беларусаў".

Калі звярнуцца да першакрыніцы выказвання Уладзіміра Някляева, да яго інтэрв'ю тэлеканалу "Белсат", дзе было выказана ягонае меркаванне наконт масавага мерапрыемства, якое мела адбыцца 21 кастрычніка, мы пабачым, што гэта выказванне не ўтрымлівае "публічнага заклiку да правядзення, арганізацыі масавага мерапрыемства з парушэннем устаноўленага парадку яго арганізацыі ці правядзення". У меркаванні, агучаным Уладзімірам Някляевым тэлежурналісту, даецца асабістыя ацэнкі стану пратэстнага руху ў Беларусі і нядаўна ўнесеных паправак да Дэкрэта №3.

Акрамя таго, у выказванні Уладзіміра Някляева ўтрымліваецца сінтаксічная канструкцыя ўмоўнага парадку: пры ўмове, калі "ёсць воля бараніць свае правы", "трэба ісці і іх абараняць", што аўтаматычна з'яўляецца і своеасаблівым пацверджаннем будучых удзельнікам несанкцыянаванага шэсця.

ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" хадайнічае аб скасаванні абвінавачвання Уладзіміра Някляева па арт.23.34 КаАП РБ.

**Сакратарыят Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

РАЗВІТАННЕ

# Бывай, зачараваны талент!

Незаменную страту панесла выяўленчая культура Беларусі. У нядзелю днём пайшоў з жыцця лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, лаўрэат прэміі Джавахарлала Неру і многіх іншых прэмій і ўзнагарод, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук, народны мастак **Георгій Георгіевіч ПАПЛАЎСКІ.**

Прадстаўнік «суровага стылю», Паплаўскі застанецца ў гісторыі мастацтваў Беларусі як выдатны графік, майстар афорта, літаграфіі, акварэлі. Ён апантана працаваў у майстэрні і без стомы ездзіў па свеце. Гаспадзь адарыў мастака унікальным талентам: апяваць у людзях мужнасць і справядлівасць, адчуваць гармонію, паэзію ў прыродзе.

Георгій Паплаўскі быў валявым, мэтанакіраваным, абаяльным чалавекам. Ён сябраваў з лепшымі людзьмі Беларусі – пісьменнікамі Васілём Быкавым, Алесем Адамовічам, Іванам Шамякіным, Янкам Брылём, Аркадзем Куляшовым. Афармляў іх кнігі, навят на з'езды да пісьменнікаў хадзіў. Георгій Георгіевіч быў чалавекам яркага грамадскага тэмпераменту, любіў выказвацца па прынцыповых пазіцыях, часта дэклараваў: «Маё сэрца належыць Браслаўшчыне. Але мне патрэбны свет, космас!». Яго таварышы не заўсёды разумелі гэтую пазіцыю. А ён, зачараваны вандроўнік, імкнуўся з хаты за гарызонт. У яго былі канфлікты з уладай, непростыя жыццёвыя сітуацыі. Але, як казаў аднойчы сам Георгій Георгіевіч у інтэрв'ю «Народнай Волі»: «Лёс не ставіў мяне перад выбарам або-або. Па вялікім рахунку я сябе не ламаў, не крышыў ва ўгоду чыімсці прыхільнасцям або эксперыментам».



Работы Георгія Паплаўскага знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі і Музеі сучаснага мастацтва (Мінск); у Траццякоўскай галерэі і ў Музеі выяўленчых мастацтваў Пушкіна (Масква); у Дзяржаўным Рускім музеі (Санкт-Пецярбург). У музеях ЗША, Швейцарыі, Польшчы, Інданезіі і Украіны.

Бывай, талент, бывай, зачараваны вандроўнік...

СІТУАЦЫЯ

Аляксандр ЛАПІЦКІ:

# «На медыкаў не крыўдую…»

*Пасля выхаду з псіхіятрычнай бальніцы 81-гадовы "палітычны" пенсіянер знаходзіцца пад прымусовым амбулаторным наглядам.*



Нагадаем перадгісторыю. У 2011 годзе Лапіцкі пачаў адсочваць ход справы аб выбуху ў мінскім метро. У сваім блогу ён дэталёва распісваў, чаму, на ягоную думку, у трагедыі вінаваты высокія службовыя асобы. Справа дайшла да суда.

12 красавіка 2016 года пастановай суда Фрунзенскага раёна г.Мінска было ўстаноўлена, што Аляксандр Нікіфаравіч Лапіцкі здзейсніў грамадска-небяспечныя дзеянні, прадугледжаныя артыкуламі 368 («Абраза Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь»), 369 («Абраза прадстаўніка ўлады»), 391 («Абраза суддзі або народнага засядацеля») Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь і гэтыя дзеянні ім былі здзейснены ў несвядомым стане. У дачыненні да пенсіянера былі ўжыты прымусовыя меры бяспекі і лячэння, каля паўгода ён знаходзіўся ў псіхіятрычным шпіталі ў Навінках. Тым часам праваабаронцы прызналі Лапіцкага палітычным зняволеным.

Зараз Аляксандр Нікіфаравіч знаходзіцца дома…

*"Пасля выхаду з бальніцы я пэўны час знаходзіўся пад так званым прымусовым амбулаторным наглядам,* – распавядае **Аляксандр Лапіцкі**. – *Але днямі сабралася ўрачэбная камісія, якая дала заключэнне, што амбулаторнае назіранне мне не патрэбна. Хаця, шчыра кажучы, яно і раней не патрабавалася. Цяпер урачы рыхтуюць дакументы ў суд, і ўжо апошняе слова будзе за ім. Праўда, не ведаю, калі дакладна адбудзецца судовае пасяджэнне па маёй справе, ды гэта мяне не асабліва і турбуе. Галоўнае, што нашы шляхі з псіхіятрамі не будуць больш перасякацца. Спадзяюся на гэта".*

Са слоў пенсіянера, падчас знаходжання ў шпіталі ніякага лячэння таксама не было.

*"Усё адбывалася фармальна,* – кажа ён. – *Лекі не прымаў, ды ўрачы, мабыць, і самі разумелі, што перад імі знаходзіцца здаровы чалавек. Але суд вырашыў мяне такім чынам "павыхоўваць", і медыкі сталі закладнікамі сітуацыі. Я на іх не крыўдую…"*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ІНІЦЫЯТЫВА

# ТБМ мае намер дапрацаваць і ўнесці ў парламент законапраект «Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы»

Дэлегаты XIII з'езда грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны», які адбыўся 29 кастрычніка ў Мінску, даручылі сакратарыяту арганізацыі дапрацаваць законапраект «Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы».

У адпаведнай пастанове, прынятай дэлегатамі з'езда, адзначаецца, што члены ТБМ распрацавалі гэты дакумент некалькі гадоў таму. Законапраект з'яўляецца *«заканадаўчым адказам на русіфікацыйныя працэсы, што адбываюцца ў краіне»*.

*«Законапраект ужо атрымліваў станоўчыя водгукі Палаты прадстаўнікоў, якая, аднак, адмовілася ўносіць яго ў парадак дня праз быццам бы недахоп грашовых сродкаў у краіне,* – падкрэслілі аўтары пастановы. – *На сёння старшыня ТБМ спадарыня* ***Алена Анісім*** *з'яўляецца дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, што адкрывае рэальную перспектыву разгляду законапраекта»*.

Дэлегаты даручылі Анісім унесці законапраект на разгляд парламента, як толькі ён будзе абноўлены.

Ідэя дзяржаўнай падтрымкі беларускай мовы апошнім часам узнікае не толькі ў грамадскіх аб'яднаннях, але і ў прадстаўнікоў акадэмічнай супольнасці і дзяржаўных інстытутаў. Летась 6 мая на I Міжнародным навуковым кангрэсе беларускай культуры ў Нацыянальнай акадэміі навук прафесар кафедры беларускай і замежных моў Акадэміі Міністэрства ўнутраных спраў **Валянціна Мароз** выказала думку аб неабходнасці прыняцця дзяржаўнай праграмы падтрымкі беларускай мовы.

*«Відавочна, што назапашаныя праблемныя пытанні ў практыцы выкарыстання дзвюх моў за апошнія 20 гадоў не могуць быць вычарпаны асобнымі, нават істотнымі, папраўкамі ў заканадаўстве. Прававое рэгуляванне і ўнясенне паправак у заканадаўчыя дакументы павінны быць падмацаваны адпаведнай дзяржаўнай праграмай падтрымкі беларускай нацыянальнай дзяржаўнай мовы»,* – адзначыла Мароз.

ФАКТ

## Скралі 45 свіней

Са свінагадоўчага комплексу вёскі Ківанцы Воранаўскага раёна Гродзенскай вобласці два маладыя супрацоўнікі на працягу трох месяцаў скралі 12 дарослых свіней і 33 парасяты. Нанесеную шкоду ацанілі ў 12 тысяч рублёў.

## Знайшлі 600-гадовы залаты пярсцёнак

У Гродне, дзе вядуцца працы па рэканструкцыі Старога замка, археолагі знайшлі залаты пярсцёнак. Гэта другі залаты выраб, знойдзены на Замкавай гары. Папярэдні быў выяўлены ў 1949 годзе на руцэ мужчыны ростам 182 сантыметры. Ён мае 750-ю пробу золата і ўпрыгожаны гранатам чырвонага колеру, гняздо пасадкі якога трымаюць па баках галовы львоў.

А напярэдадні археолагі знайшлі яшчэ і шахматную ладдзю XVI стагоддзя, якая таксама з'яўляецца другой па ліку падобнай знаходкай. Папярэдняя зроблена заснавальнікам Гродзенскага музея Юзафам Ядкоўскім у 1931 годзе.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК.**

ЖИЗНЬ РЕГИОНА

# Прольется ли над Кричевом грибной дождь?

**Новый председатель Кричевского райисполкома Дмитрий Бочков активно ищет возможности для привлечения в экономику района инвестиций. Требует от подчиненных писать проекты и пробивать их финансирование. Таким образом он хочет выполнить свои обещания, которые были озвучены во время утверждения его райсоветом в качестве председателя РИК. Они сводились к тому, что задача номер один – это** ***«Обеспечение занятости населения и создание новых рабочих мест, рост благосостояния населения и зарплаты, контроль за уровнем цен, развитие инфраструктуры»*****.**

**Наибольшую известность в первый месяц работы Д.Бочкова в новом качестве получил проект по выращиванию грибов на территории передислоцируемой воинской части…**

### Планов громадье

Собственно, «грибным проектом» хвастался еще предыдущий кричевский градоначальник В.Сысоев. Реализовать его у Василия Васильевича не вышло. Вмешались «потусторонние силы». Д.Бочков, который был у Сысоева первым замом, инициативу решил продолжить. Спасать район от безработицы и безденежья пригласили вездесущих китайцев.

Не так давно они посетили Кричев. В СМИ сообщалось, что они представляли Дзянсускую групповую компанию по зарубежному сотрудничеству. Глубоких подробностей переговоров китайской делегации с Д.Бочковым сообщено не было. На официальном фото председатель РИКа, улыбаясь, жмет руку своему китайскому коллеге. Тот тоже улыбается, однако глаза направлены в грудь Бочкова. Еще двое китайских товарищей глазами изучают, нет ли трещин в паркетном полу, а третий криво ухмыляется. Кричевских чиновников, кроме Д.Бочкова, на снимке нет.

СМИ пишут, что сейчас проект только разрабатывается. Должен быть одобрен в облисполкоме, где китайцы тоже побывали. Если бы китайская экономика росла с такой же скоростью, как реализовывается этот «грибной проект», то Китай по темпам развития вряд ли стал бы первым в мире.

Вообще, план предусматривает создание на предприятии по производству грибов не менее 100 рабочих мест. Выход их за год должен составить от 3 тысяч до 5,7 тысячи тонн. Грибы собираются поставлять в первую очередь на китайский рынок. Потом – закрывать потребности Беларуси. В проекте названы следующие сорта грибов – шампиньоны, шиитаке, вешенки, некоторые другие.

### Что осталось за кадром

Смущает в этой в целом позитивной информации вот что. К сожалению, официально никто не назвал возможные сроки окупаемости проекта, кто будет оплачивать возможные финансовые риски, какая будет прибыль предприятия, сколько денег попадет в бюджет района, какие специальности будут востребованы, какова будет зарплата и т.д. И – сколько времени потребуется от разработки проекта до его конкретной реализации. Ведь некоторые кричевляне в ожидании скорого запуска предприятия могут отказаться от поездок в Россию на заработки, устроить «лежку на диване».

Читателям важно бы знать, что за китайская компания предлагает нам сотрудничество и инвестиции. Есть ли у нее история успеха? Или она приходит на рынок Беларуси впервые? За официальными улыбками и рукопожатиями (без них тоже нельзя) можно не увидеть главного: что будут иметь в итоге кричевляне?

### История китайских инвестиций

В 2013 году в Кричевском районе состоялся торжественный пуск нового цементного производства вблизи деревни Каменка. Нажать кнопку прилетал Александр Лукашенко. Завод строили китайские специалисты по собственным технологиям и в основном за китайские деньги. Недавно власть и руководство предприятия провели торжественные мероприятия по случаю выпуска 5 миллионов тонн продукции. Странно, но кричевскую власть на мероприятии представляла председатель райсовета Ирина Прудникова, а не руководитель «вертикали» Д.Бочков. Возможно, у него не сложились отношения с Владимиром Киселевым, может, еще какие-то причины.

Как помнится, идеологи «чуда на болоте» собирались выпускать на двух заводах 3,6 миллиона тонн цемента в год. Старый завод благополучно похоронили, сделав красивую мину. «Оптимизировали» численность работающих, «заговаривали или закрывали рот» недовольным подписантам обращений к А.Лукашенко. На заводе оборудование довольно часто ломалось, что требовало приглашения китайских специалистов. Случались аварии, которые администрация пыталась скрыть. На плановые 1,8 миллиона тонн «ЦКШ» не вышел до сих пор.

«Кричевцементношифер» «слили» с БЦЗ (г.Костюковичи) в одну компанию, поставив во главе В.Киселева. После ареста Л.Скоцкого гендиректором «КЦШ» был назначен «не кричевский» Владимир Корчевский.

ОАО – формально частное предприятие. Однако состав акционеров обществу не известен. У кого какая доля? Как приобрести акции – никто не знает. Об этом открыто не пишут. Из независимых СМИ было известно, что ОАО «КЦШ», БЦЗ и БЦК в последние годы были в убытках, долги китайцам выплачивал Совмин. Теперь такую информацию в открытом доступе не найти. И.Прудникова заявила, что «коллектив цементников работает с положительной рентабельностью, прибылью от полученной продукции». Однако цифры не назвала. А в наше время словам верить не очень принято. Особенно из уст чиновников-бюрократов.

### Резюме

Очередной китайский проект необходимо сделать достоянием общественности, он должен быть подвергнут тщательному анализу на предмет целесообразности. Очень плохо, что кроме китайцев в Беларусь по ряду причин с инвестициями мало кто спешит. А пока в ожидании «грибного дождя» будем собирать шампиньоны, подберезовики и опята, как пишет в «районке» Д.Владимиров, в парках и скверах города. Хорошо, что они растут и рядом с отделением «скорой помощи» – это очень кстати.

**Сергей НЕРОВНЫЙ.**

*г.Кричев.*

ЛИЧНАЯ ЖИЗНЬ

## Михаил Грабовский ожидает пополнения в семье

*Из-за травмы 4-кратный лучший хоккеист Беларуси не играет с 15 марта 2016 года.*

– Миша сейчас находится в Торонто, где готовится по индивидуальной программе, поскольку не прошел клубное медобследование. Зато есть больше времени, чтобы уделить семье. Михаил в третий раз готовится стать отцом. До Нового года на лед он не выйдет однозначно. Позже уже ситуация покажет, как и что. Если не получится поиграть в этом сезоне НХЛ, цель тогда сведется к тому, чтобы выступить на чемпионате мира в Дании, – *рассказал журналистам отец хоккеиста Юрий Грабовский.*

Как известно, Михаил Грабовский с женой Кэтлин воспитывают дочь Лили и сына Джаггера.

3 ПЕР

ЗАКУЛІССЕ

## Таленавіты ва ўсім…

*10-разовы чэмпіён свету па тайскім боксе распрацаваў вопратку з нацыянальнай сімволікай.*



Віталь Гуркоў – адзін з нямногіх айчынных спартсменаў, які добра ведае беларускую мову і размаўляе на ёй. Спявае разам з Сяргеем Міхалком у гурце Brutto.

І вось зараз стала вядома, што Віталь рэалізаваў яшчэ адну сваю мару – пры дапамозе дызайнераў распрацаваў і запусціў у продаж вопратку з нацыянальнай сімволікай.

**Віктар ШПАК.**

ЗА РУЛЕМ!

# Белорусы снова отправляются на ралли «Дакар»




Это будет юбилейный, 40-й, ралли-рейд, он пройдет с 6 по 20 января 2018 года в Южной Америке.

От Беларуси на «Дакар» отправятся те же гонщики, которые участвовали в последних марафонах. Лидер команды **Сергей Вязович** поедет вместе со штурманом **Павлом Гараниным** и механиком **Андреем Жигулиным**. Второй поведут пилот **Александр Василевский,** штурман **Дмитрий Вихренко** и механик **Антон Запорощенко**. В третьем экипаже будут **Алексей Вишневский**, штурман **Максим Новиков** и механик **Андрей Неверович.**

Конкуренцию белорусам составят все известные команды. Например, КАМАЗ выставит на гонку сразу четыре экипажа. Среди серьезных соперников также будут Petronas Iveco, MAN, Tatra и Renault.

*«Юбилейный «Дакар» обещает стать серьезным испытанием.* – говорит руководитель команды «МАЗ-СПОРТавто» Сергей Вязович. – *Вероятно, на 40-летие гонки и 10-летие ее проведения в Южной Америке организаторы подготовят по-настоящему сложный и изматывающий маршрут. При этом мы полны оптимизма и готовы к спартанским условиям: спортивные грузовики МАЗ можно считать одними из лучших в мире, экипажи обладают большим опытом. Все последние месяцы до «Дакара» посвящены тренировкам».*

Команда «МАЗ-СПОРТавто» регулярно выступает на ралли-рейде «Дакар». Последняя гонка оказалась самой успешной в истории команды. Тогда экипаж Александра Василевского *(на фото)* занял на марафоне 6-е место. При этом всем трем экипажам удалось благополучно добраться до финиша.

**Игорь ЗАЛЕССКИЙ.**

СЛЫШАЛИ?

# Борис Батура награжден церковным орденом Евфросинии Полоцкой

Соответствующий указ подписал митрополит Минский и Заславский, Патриарший Экзарх всея Беларуси Павел.

Решение о награждении экс-председателя Минского облисполкома было принято в самом конце августа, но только недавно информация об этом была опубликована на сайте Минской епархии Белорусской православной церкви. Орден **Борис Батура** получил *«во внимание к усердным трудам во славу Святой Церкви Христовой и в связи с 70-летием со дня рождения»*.



К слову, Борис Батура является заместителем председателя попечительского совета женского монастыря в честь Святой блаженной Ксении Петербургской в деревне Барань Борисовского района.

Стоит отметить, что православная церковь не первый раз награждает Бориса Батуру. 10 лет назад подарком на 60-летие чиновнику стала еще одна высокая награда Белорусской православной церкви – орден Кирилла Туровского.

Как известно, Борис Батура с должности председателя Миноблисполкома был отправлен в отставку в ноябре 2013 года за срыв модернизации на ОАО «Борисовдрев». Александр Лукашенко поначалу даже заявил, что Батура направлен руководить этим предприятием. Но назначение так и не состоялось, а Борис Батура ушел на пенсию. В 2016 году он похвалился, что получает пенсию около 15 миллионов рублей (на сегодняшний день это полторы тысячи). *«Благодаря Лукашенко дали пенсию с должности высшего должностного лица»,* – заявил тогда Борис Батура. И ни слова о том, что немалая часть пенсионеров еле-еле сводит концы с концами, имея от государства в месяц каких-нибудь 200–250 рублей.

**Анна ГОНЧАРИК.**

SOS!

## Расце колькасць пенсіянераў, якія атрымліваюць мінімальную пенсію

За апошнія 6 гадоў іх колькасць павялічылася амаль у 5 разоў, піша часопіс Міністэрства фінансаў «Фінансы, улік, аўдыт». Пры гэтым у Беларусі расце таксама і колькасць атрымальнікаў сацыяльных пенсій.

*«Звяртае на сябе ўвагу рэзкі рост у апошнія гады колькасці грамадзян пенсіённага ўзросту, якія атрымліваюць працоўную пенсію ў мінімальным памеры (у чэрвені яна складала 224 рублі, або каля 70% ад сярэдняй пенсіі па ўзросце)»,* – адзначае выданне.

Калі ў 2010 годзе іх было 42 тысячы чалавек, то ў 2016-м – 200 тысяч, або каля 10% ад усіх пенсіянераў па ўзросце. Дадзены паказчык амаль супастаўны з узроўнем 2000 года, калі такіх асоб было каля 260 тысяч (13%).

ЖАХ!

## Абстраляў міліцэйскі пост і кінуў кактэйль Молатава

*Красамоўны інцыдэнт адбыўся 26 кастрычніка ў 23.00 пад Рагачовам. 30-гадовы жыхар аграгарадка Столпня, сям'і якога надакучылі праверкі, вырашыў па-свойму разабрацца з праваахоўнікамі.*

– Міліцэйскі пост устаноўлены ў аграгарадку ў сувязі з прафілактычнымі мерапрыемствамі, – распавёў «Свабоднаму слову» першы намеснік начальніка Рагачоўскага РАУС **Вячаслаў Ліхалат.** – Супрацоўнікі РАУС правяралі праязджаючыя аўтамабілі. Бацька гэтага чалавека паскардзіўся сыну на тое, што міліцыя надакучыла яму праверкамі. Малады мужчына выпіў і вырашыў разабрацца з праваахоўнікамі.

Мужчына прыхапіў з сабой пляшку з бензінам і вінтоўку Мосіна. Першым у ход пайшло гаручае: вясковец хацеў падпаліць пост, але пляшка не даляцела да цэлі і загарэлася за 15 метраў ад яе. Міліцыянт убачыў полымя і выйшаў на вуліцу. Раптам пачуўся стрэл: жыхар Столпні страляў з вінтоўкі. Тады супрацоўнік РАУС дастаў пісталет, перадзёрнуў затвор. Пачуўшы характэрны гук, зламыснік яшчэ раз стрэліў і ўцёк.

Праз некаторы час ён быў затрыманы і ўзяты пад варту. Свае дзеянні патлумачыў тым, што проста хацеў напалохаць праваахоўнікаў. Пры вобшуку ў доме мужчыны знайшлі зброю, патроны і іншыя боепрыпасы.

У дачыненні да затрыманага заведзена крымінальная справа па частцы 3 артыкула 339 Крымінальнага кодэкса «Хуліганства», згодна з якой яму пагражае да сямі гадоў пазбаўлення волі.

РЭДКІ ВЫПАДАК

# Праз 90 гадоў!

У Чарнобыльскай зоне заўважылі **ляснога ката**. Гэты від, падобны да янотавіднага сабакі, знік з тэрыторыі Беларусі 90 гадоў таму.

Жывёла трапіла на камеры відэаназірання 22 чэрвеня 2017 года ў вёсцы Рожава (Нараўлянскі раён), што знаходзіцца глыбока ў зоне адсялення. Да бліжэйшай вёскі, дзе жывуць людзі, адтуль не менш за 25 кіламетраў. Расказаў пра гэтую "знаходку" старэйшы навуковы супрацоўнік лабараторыі малекулярнай заалогіі НПЦ НАН Беларусі па біярэсурсах **Валерый Дамброўскі** на партале wildlife.by. Нягледзячы на нізкую якасць начной здымкі, на фота добра бачны асноўныя прыкметы віду: буйны памер, доўгая задняя ступня і масіўны хвост з пяццю выразнымі чорнымі палоскамі.

Вучоны паведаміў, што ў XVIII–XIX стагоддзях адбылося значнае скарачэнне колькасці гэтага віду і фрагментацыя яго арэала. У Беларусі ён лічыцца вымерлым. Апошні лясны кот быў здабыты зімой 1927 года ў Барысаўскім раёне Мінскай вобласці. Прычым лічыцца, што ён выпадкова забег да нас з больш паўднёвых месцаў свайго пражывання.

Для выратавання ляснога ката ў Германіі ў канцы XX стагоддзя паспяхова былі праведзены работы па яго рэінтрадукцыі. З таго часу колькасць віду пачала лакальна расці.

